ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 59(5241)
Аўторак, 29 мая 2001 года

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

Кошт у розніцу — 51 руб.

## Спецыяльны выпуск: сталічная адукацыя

***"Настаўніцкая газета" працягвае традыцыю азнаямлення чытачоў з ходам рэформы агульнаадукацыйнай школы ў розных рэгёнах краіны. Мы прадстаўлялі ўжо на сваіх старонках адукацыю Гродзенскай, Віцебскай і Мінскай абласцей. Сёння наш выпуск прысвечаны сталічнай адукацыі.***

## Сталічная візітоўка

*Адукацыйная сістэма сталіцы — гэта адпаведная сетка ўстаноў адукацыі, якая забяспечвае самыя разнастайныя запатрабаванні мінчан на атрыманне рознаўзроўневай адукацыі.*

*У Мінску функцыянуе 246 агульнаадукацыйных сярэдніх вучэбных установ. З іх:*

*10 пачатковых школ;*

*4 школы-інтэрнаты;*

*199 сярэдніх школ (90 — з адукацыйнымі ўхіламі, 25 — з паглыбленым вывучэннем замежных моў, у 31 функцыянуюць ліцэйскія класы);*

*19 гімназій;*

*2 ліцэі;*

*2 педагагічныя каледжы;*

*10 спецыялізаваных школ-інтэрнатаў.*

*Ёсць 11 агульнаадукацыйных вячэрніх школ.*

*Сталіца мае 31 установу прафтэхадукацыі са структурай, якая ахоплівае практычна ўвесь сацыяльна-эканамічны комплекс горада.*

*Гэта:*

*8 вышэйшых прафесійных вучылішчаў;*

*2 цэнтры прафтэхадукацыі;*

*1 вучэбна-прафесійны цэнтр;*

*20 ПТВ.*

*Навучэнцы ПТВ навучаюцца па 193 прафесіях, больш за 85 працэнтаў якіх з'яўляюцца інтэграванымі і даюць магчымасць выпускнікам атрымаць кваліфікацыю па 2-3 спецыяльнасцях; штогод 10-15 прафесій мяняюцца — у залежнасці ад сітуацыі на рынку працы.*

*У 36 пазашкольных установах (уключаючы філіялы і клубы па месцы жыхарства) працуе больш за 5 тысяч гурткоў і клубаў розных профіляў, у якіх займаюцца 72 тысячы дзяцей (1/3 ад агульнай іх колькасці). У школах горада функцыянуе 60 школьных музеяў.*

*Сістэму метадычнага забеспячэння адукацыйнага працэсу прадстаўляюць:*

*Гарадскі Інстытут удасканалення настаўнікаў (ГІУН);*

*2 вучэбна-метадычныя цэнтры (гарадскі і вучэбна-метадычны цэнтр прафтэхадукацыі);*

*Гарадская інспекцыя ўпраўлення адукацыі;*

*Гарадскі Цэнтр фізвыхавання і спорту вучнёўскай моладзі;*

*Гарадское ўпраўленне адукацыі.*



## Дарагая Рэгіна Карлаўна!

З самымі шчырымі пачуццямі ўдзячнасці і павагі шлю Вам самыя душэўныя і сардэчныя пажаданні здароўя, чыстага і мірнага неба, светлых дзён, пяшчотнага сонца, цеплыні ва ўзаемінах з роднымі і блізкімі, а таксама з Вашымі шматлікімі вучнямі, зычу Вам невычэрпнай цікавасці да людзей, да клопатаў нашай Айчыны і Вашай любімай справы — вучыць і выхоўваць. Гэты дзень, азнаменаваны вехамі стогадовай гісторыі, выклікае захапленне, радасць і гонар. Гонар за Ваша жыццё — шчаслівае і нялёгкае, светлае і турботнае, цікавае і незвычайна багатае на добрыя здзяйсненні. Ваша энергічнасць, настаўніцкая мудрасць і вытрымка, інтэлігентнасць і клопат пра іншых заўсёды былі прыкладам, узорам жыцця. Нястомная цяга да новага, інтуітыўнае адчуванне перадавога і значнага ў адукацыі былі ўласцівы Вам у педагагічнай дзейнасці, жывымі яны застаюцца і цяпер. Гэта яўна прысутнічае ў гутарках з Вамі, калі жаданне размаўляць з такім чалавекам, як Вы, не слабее, набывае велічны, сімвалічны сэнс, які напаўняе душу і сэрца разуменнем таго, што далучаешся да разумнага, добрага, вечнага.

Паважаная Рэгіна Карлаўна! Вашы задумы, памкненні і спадзяванні, я абсалютна ўпэўнены ў гэтым, знойдуць годны працяг у справах новых пакаленняў настаўнікаў, тых, чые сэрцы Вы запалілі на сваіх уроках, ва ўзаемінах з калегамі і на педагагічных нарадах. Лейтматывам Вашага жыцця сталі словы Вашага бацькі Карла Раймондавіча: **слова чалавека — гэта яго гордасць**. Вашаму слову можна заўсёды давяраць, настолькі крыштальна чыстым, жыццярадасным, чароўным і прыцягальным гучыць яно з Вашых вуснаў. Вашым словам можна ганарыцца, настолькі праўдзівае, мудрае і дакладнае яно ў сваіх невычэрпных фарбах — слова сапраўднага Настаўніка, Грамадзяніна і Чалавека.

З пакланеннем перад Вашым талентам і веліччу жыцця міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь

**Васіль СТРАЖАЎ.**

# "Дапамагчы кожнаму дзіцяці рэалізаваць свае магчымасці"

***Наш суразмоўца — Міхаіл Сяргеевіч Ціцянкоў, начальнік упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама.***

**— Буйны горад, тым больш сталічны, можна параўнаць са складанейшым арганізмам з мноствам узаемапераплеценых структур, службаў, камунікацый. І адукацыя — гэта сфера, якая "пранізвае" сабою ўсе астатнія...**

— Адукацыя для сталіцы — гэта адна з буйнейшых галін, якія рэальна ўплываюць і на мікраклімат, і на палітыку, і літаральна на ўсё, што адбываецца ў горадзе. І гарадскія ўлады гэта разумеюць; можа, таму мы з'яўляемся зараз тым рэгіёнам, дзе фактычна не адбылося змяншэння затрат на нашу галіну. Яна ў горадзе не застыла на месцы, і як прыклад таму — штогод у Мінску ўводзяцца ў эксплуатацыю дзве школы і два дзіцячыя сады.

Сёння ў сталіцы амаль 400 тысяч чалавек маюць непасрэднае дачыненне да адукацыі. З іх 250 тысяч дзяцей і 70 тысяч навучэнцаў ПТВ. Улічыце бацькоў: нават калі ўзяць няпоўныя сем'і, (а такіх у горадзе 33 працэнты), усё роўна лічбы выходзяць вялікія. Атрымліваецца, што мноства людзей — амаль 2/3 жыхароў горада — так ці інакш звязаны з адукацыяй альбо сутыкаюцца з ёю. Да таго ж, наша ўпраўленне распрацавала комплексную праграму "Сталічная адукацыя", якая прадугледжвае цеснае ўзаемадзеянне нашай галіны з большасцю гарадскіх службаў. Мы падключаем да яе рэалізацыі і Камітэт па ахове здароўя, і ўпраўленне сацыяльнай абароны насельніцтва, і ўпраўленне ўнутраных спраў, і ўпраўленне па фізічнай культуры і спорце і г.д. Таму пытанні адукацыі рэальна датычацца амаль усіх жыхароў сталіцы.

**— У сталічнай адукацыі ёсць свае адметныя рысы?**

— Мы маем сваю непаўторную структуру. Ёсць упраўленне адукацыі, ёсць аддзелы адукацыі пры адміністрацыях раёнаў горада. Гэта можна назіраць і ў іншых рэгіёнах краіны. Але ні ў адным рэгіёне няма інспекцыі ўстаноў адукацыі. У нас яна ёсць, і гэта здымае з РАА пытанні інспектавання і дазваляе ім займацца галоўным — арганізацыйнай работай. У іншых рэгіёнах такой магчымасці няма. Наша інспекцыя праводзіць аналітычную работу, ацэньвае якасць адукацыі. І па выніках такога інспектавання потым ажыццяўляецца метадычнае забеспячэнне ўстаноў адукацыі, праводзіцца неабходная карэкціроўка іх дзейнасці. Гэтым ужо займаецца гарадскі вучэбна-метадычны Цэнтр. Такім чынам, у нас добра наладжана дыферэнцыяцыя работы кожнага звяна галіны: кожны займаецца сваёй справай.

Мы дакладна "ўвайшлі" ў рэформу школы. У дашкольных установах была створана неабходная база, таму 95 працэнтаў падрыхтоўчых класаў сталіцы працуюць у дзіцячых садах. Гэта дапамагае дзецям лепш адаптавацца да нагрузак, амаль не ламае іх жыццёвы ўклад. У рамках рэфармавання мы добра спрацавалі па стварэнні трэцяй адукацыйнай мадэлі. Тры гады таму, калі падрыхтоўчыя класы сталі набіраць шасцігодак, сямігодкі павінны былі пайсці ў першы клас па старой праграме, такім чынам яны страчвалі цэлы год. У выніку праведзенай намі работы звыш 25 працэнтаў сямігодак, якія атрымалі папярэднюю падрыхтоўку да школы, пайшлі ў першы клас ужо рэфармаванай школы.

Усё больш у горадзе ствараецца ліцэйскіх класаў. Наогул добра ідзе работа па развіцці сеткі ўстаноў адукацыі сталіцы, ці так званай знешняй дыферэнцыяцыі.

**— Не сакрэт, што ў Мінску вельмі востра стаіць пытанне кадравага забеспячэння ўстаноў адукацыі.**

— Так, з кадрамі зараз існуюць сур'ёзныя праблемы. Гэта звязана з большымі магчымасцямі, якія прадастаўляе людзям сталіца. Калі на рынку працы дзесьці запатрабаваны спецыялісты-педагогі, то яны, зразумела, пойдуць туды, дзе ўмовы працы будуць лепшыя. А тое, што настаўніцкая зарплата не вельмі прываблівае, ні для каго не сакрэт, хоць у горадзе і прымаюцца пэўныя меры, каб падтрымаць і стымуляваць педагогаў, асабліва таленавітых. З гэтай мэтай Мінгарвыканкам зацвердзіў 100 прэмій для лепшых педагогаў горада і 100 грантаў для працуючых у інавацыйным рэжыме педагагічных калектываў. Гэтыя прэміі будуць прысуджацца штогод. А першае ўручэнне іх адбылося ў снежні 2000 года.

Усім педагогам, якія працуюць у сістэме адукацыі горада, з гарадскога бюджэту выплачваецца штомесячная надбаўка да зарплаты ў памеры трох мінімальных зарплат. Да таго ж, пастаноўлена, што не менш за 10 працэнтаў жылля, якое будзе ўводзіцца ў горадзе праз ЖСК, будзе аддавацца настаўнікам. Зараз ідзе рэканструкцыя аднаго з інтэрнатаў сістэмы прафтэхадукацыі пад "маласямейку". Ужо напрыканцы гэтага года 100 маладых настаўніцкіх сем'яў атрымаюць, па сутнасці, аднапакаёвыя кватэры.

Але праблему трэба вырашаць і на больш шырокім узроўні. І мы ўдзячны ўраду за тое, што Саўмін прыняў рашэнне, згодна з якім МДПУ імя М.Танка зараз з'яўляецца базавай установай падрыхтоўкі кадраў для горада Мінска. Зразумела, адным гэтым крокам праблему не вырашыш, таму ўпраўленне правяло сумесную калегію з вучоным саветам універсітэта, прысвечаную актывізацыі работы па падрыхтоўцы педагагічных кадраў менавіта для Мінска і менавіта па тых спецыяльнасцях, якія нас цікавяць, г.зн. настаўнікаў замежных моў, фізкультуры і г.д. Мы дамовіліся, што ў сталіцы будуць дадаткова адкрыты педагагічныя класы, педагагічныя гімназіі, што ў новым рэжыме запрацуюць абодва педкаледжы, у педуніверсітэце будуць створаны вучэбна-педагагічныя комплексы. Мінгарвыканкам перадаў ужо універсітэту для гэтых патрэб будынак дзіцячага сада. Мы будзем выкарыстоўваць і развіваць такія формы падрыхтоўкі педагагічных кадраў для Мінска як мэтавая і кантрактная... Канешне, за адзін дзень гэтую праблему не вырашыць. Нашы задумы пачнуць увасабляцца ўжо сёлета, але канчатковы рэзультат мы зможам атрымаць не менш чым праз чатыры гады.

**— Упраўленне адукацыі спрабуе дапамагчы настаўніку, абараніць яго інтарэсы. І павінна сказаць, педагогі зараз сапраўды маюць у гэтым вялікую патрэбу. А як наконт дзяцей? У чым заключаецца клопат пра іх? Разумею, што гэта агульнае пытанне, але хаця б... На ваш погляд, якія тут павінны быць прыярытэты?**



— Лічу, трэба абавязкова стварыць умовы для самарэалізацыі адораных дзяцей. Іх у нас шмат, і ім патрэбны пільная ўвага і клопат. Таму мы ўкладваем шмат сіл у развіццё алімпіяднага руху. У кожным раёне горада зацверджаны спецыяльныя прэміі для таленавітых дзяцей, а на днях Мінгарвыканкам уручыў 25 прэмій лепшым вучням горада — самым таленавітым і працалюбівым. Думаю, грамадская ўвага і прызнанне проста неабходны юным талентам. З другога боку, нам нельга забываць і аб дзецях з асаблівасцямі развіцця, якіх з кожным годам становіцца ўсё больш, і аб самых неабароненых у сацыяльным плане — сіротах. У горадзе распрацаваны спецыяльныя праграмы "Дзеці-інваліды" і "Дзеці-сіроты", якія актыўна працуюць па абароне правоў і інтарэсаў такіх дзяцей. Але нават калі ўзяць самага звычайнага школьніка са звычайнай сям'і... Паглядзіце на ранец малога, які ідзе ў падрыхтоўчы клас. Яго вага амаль большая да вагу самога дзіцяці. Паглядзіце, з якімі перагрузкамі сутыкаюцца нашы дзеці ў асобных навучальных установах... Нам трэба ўсур'ёз заняцца здароўем школьнікаў. І адна з бліжэйшых нашых задач — пошук і актыўнае ўкараненне чалавеказберагаючых тэхналогій навучання.

**— Ці можаце вы сказаць, што ў горадзе створаны роўныя адукацыйныя магчымасці для ўсіх дзяцей? Некаторыя мінчане скардзяцца, што ў гімназію трапіць цяжэй, чым паступіць у ВНУ...**

— Наша задача — прапанаваць шырокі спектр адукацыйных паслуг. І горад сёння гэта прапаноўвае. Але гэта не значыць "даць кожнаму гімназію".

Стартавыя ўмовы аднолькавыя абсалютна для ўсіх дзяцей, а далей... далей ужо падключаюцца самыя розныя фактары — наконт таго, напрыклад, што, каб трапіць у гімназію, трэба прайсці адбор. Не кожнаму дзіцяці гэта пад сілу, і не кожнаму гэта, можа быць, і патрэбна. Але сёння амаль усе бацькі хочуць, каб іх дзіця вучылася ў гімназіі. Праблема заключаецца ў тым, што грамадскай свядомасцю яшчэ не ўспрыняўся той факт, што гімназія як тып навучальнай установы пачынаецца з пятага класа. Бацькі аддаюць дзіця ў падрыхтоўчы клас і думаюць, што аддалі яго ў гімназію. Але яно вучыцца толькі ў пачатковай школе пад дахам гэтай навучальнай установы. І каб прайсці потым у гімназію, трэба вытрымаць конкурсны адбор. Гэтаксама ж справы абстаяць і з ліцэйскімі (9-11) класамі.

**— Гэта значыць калі дзіця не прайшло адбор, яно павінна пайсці вучыцца ў іншую навучальную ўстанову?**

— Яно мае такое права, як і права застацца ў гэтай школе ў звычайным агульнаадукацыйным класе.

Зараз мы паставілі задачу стварыць пры кожнай гімназіі пачатковую школу. Наогул, у перспектыве плануецца сур'ёзна заняцца адкрыццём менавіта пачатковых школ. Дзеці будуць знаходзіцца ў камфортных умовах, у аптымальным мікраасяроддзі, толькі сярод равеснікаў — гэта вельмі спрыяльная атмасфера. Адначасова — пры наяўнасці такіх асобных будынкаў пачатковых школ на базе дзіцячых садкоў — мы здымем праблему гімназій. А яшчэ, я думаю, калі мы адкрыем некалькі новых гімназій у маладых мікрараёнах (гэта плануецца зрабіць у самы бліжэйшы час), то гэтая праблема перастане існаваць.

**— Нашым чытачам, напэўна, будзе цікава даведацца, што зараз знаходзіцца ў вашай "рабочай папцы", якія задачы чакаюць свайго вырашэння ў бліжэйшай перспектыве.**

— Зараз мы працуем над праграмай "Сталічная адукацыя-2". Спадзяемся, удасца знайсці іншыя, больш дзейсныя падыходы да вырашэння некаторых праблем. Нам трэба больш уважліва паглядзець на тое, што мы называем новымі адукацыйнымі тэхналогіямі. Лічу, трэба смялей заяўляць аб уласных дасягненнях у гэтай галіне. У нас шмат творчых настаўнікаў, якія працуюць па сваіх аўтарскіх праграмах, — трэба больш прапагандаваць і распаўсюджваць іх вопыт. Трэба ўсур'ёз заняцца праблемай адукацыйных стандартаў і якасці адукацыі, каб два медалі, якія атрыманы ў розных навучальных установах, не з'яўляліся (як гэта часам яшчэ бывае) зусім рознымі рэчамі. Плануем ушчыльную заняцца здароўем юных мінчан. У нас ужо ёсць добрыя напрацоўкі ў гэтай галіне. Наша бліжэйшая задача — укараненне ў работу школ здароўезберагаючых тэхналогій. Але я пра гэта ўжо казаў крыху раней...

Радуе, што Мінск наладжвае шчыльныя кантакты з Маскоўскім камітэтам адукацыі. У гэтым месяцы я ўжо двойчы пабываў у Маскве з такой нагоды: на сустрэчы і падпісанні дагавора аб супрацоўніцтве паміж Маскоўскім Камітэтам адукацыі і ўпраўленнем адукацыі Мінгарвыканкама, і ў складзе дэлегацыі, якая прымала ўдзел у днях Мінска ў Маскве. Думаю, наша супрацоўніцтва будзе плённым.

...Наогул, дэвізам да ўсяго, што робіцца (і плануецца рабіць надалей) нашым упраўленнем адукацыі, могуць быць словы В.І.Стражава: "Ад школы для ўсіх — да школы для кожнага". Сёння нам трэба думаць аб тым, што перад намі — канкрэтнае дзіця, і яму трэба стварыць камфортныя ўмовы для рэалізацыі яго магчымасцей.

**Гутарыла Святлана СУБОЦІНА.**

НА ЗДЫМКУ: М.С.Ціцянкоў.

## Сотая вясна Настаўніцы

100 гадоў. Многа гэта ці мала? У гісторыі чалавецтва гэта толькі адно імгненне. А ў жыцці чалавечым — цэлая вечнасць.

Год назад 99-гадовая мінская настаўніца Рэгіна Карлаўна Бабковіч яшчэ магла спяваць, чытаць вершы. Гэта якраз той выпадак, калі чалавек менавіта жыве, а не дажывае. Радуецца сонцу, вясне, дзецям і ўнукам, незнаёмым людзям. Рэгіну Карлаўну памятаюць яе калегі, а былая вучаніца школы, дзе яна працавала завучам, настаўніца Тамара Трафімаўна Шалышка ўспамінае, што гэты чалавек мог ладзіць з усімі — і з калегамі, і з вучнямі. Што цікава — гэтыя якасці былі ўласцівы Рэгіне Карлаўне з маладосці. Сапраўды, настаўніцай трэба нарадзіцца.

У сталічнай школе № 1 Рэгіна Карлаўна пачала працаваць у 1929 годзе. А да гэтага была праца ў Бягосаўскай пачатковай школе на Віцебшчыне, Полацкім дзіцячым доме, дзіцячай калоніі. І ўсюды, акрамя педагагічнага майстэрства, патрэбны былі маладой настаўніцы такт, вытрымка, спагада.

Асноўная педагагічная дзейнасць Рэгіны Карлаўны была звязана з 15-й мінскай школай (былой, а не цяперашняй). І хоць ніколі гэтая сціплая жанчына не прагла ўзнагарод, як жартаўліва сказала яна сама, "у пяцідзесятыя гады яны на мяне пасыпаліся", — ордэн Леніна, ордэн "Знак Пашаны", медаль "За доблесную працу ў гады Вялікай Айчыннай вайны"...

Настаўнікам працаваў і муж Рэгіны Карлаўны Іван Фёдаравіч. Сустрэліся яны на Віцебшчыне ў 20-я гады. І пражылі разам аж семдзесят тры гады. Як успамінае дачка, гэта была вельмі дружная пара. З'яднала іх цяга менавіта да духоўных каштоўнасцей, ніколі не было ў доме спрэчак наконт матэрыяльных праблем. Іван Фёдаравіч захапляўся садаводствам — настаўніцкая сям'я мела невялікі ўчастак. А выхоўваліся ў сям'і, акрамя родных сына і дачкі, яшчэ і пляменнікі, ды і "цяжкія" падлеткі. Усяго шасцёра. Сапраўды, як ні банальна гэта гучыць, "шчасце было не ў грошах". Можа з гэтай прычыны і ўдалося захаваць Рэгіне Карлаўне і бадзёрасць, і аптымізм, і сілу духу. Інакш хіба пайшла б яна ў 60 гадоў спяваць у ветэранскім хоры Палаца прафсаюзаў?

Гляджу на партрэт Рэгіны Карлаўны ў 18-гадовым узросце. Прыгажуня з доўгай касой. Але вочы вельмі сур'ёзныя. Быццам адбілася ў іх прадчуванне, што нялёгкай будзе яе жыццёвая дарога. Нялёгкай, але такой цікавай, насычанай на падзеі, на сустрэчы з добрымі людзьмі. І кожны гістарычны этап стагоддзя праходзіў перад яе вачыма. У 1937 годзе не стала двух родных братоў, мужа сястры. Незадоўга да гэтага бацька, Карл Раймондавіч, сабраў сваіх шасцярых дзяцей у Ленінградзе, каб на схіле жыцця даць ім свой бацькоўскі наказ — "заўсёды быць сумленнымі і высакароднымі". У гады вайны — эвакуацыя ў Ашхабад, дзе вельмі нялёгка было ўладкавацца на працу. Але высокае майстэрства дапамагло і тут, за тысячы кіламетраў ад Радзімы. Цяжкімі былі і пасляваенныя гады.

"Няма ў маёй мамы помслівасці і злосці", — гаворыць пра Рэгіну Карлаўну яе дачка Людміла Іванаўна.

Цікава, што адна з маіх бабуль была таксама доўгажыхаркай. Лёс адмераў ёй 84 гады. І яе лепшымі рысамі былі дабрыня, шчырасць, любоў да людзей. Ніякія беды і выпрабаванні не змаглі перамагчы чалавека ў чалавеку. Гэта — агульная рыса пакалення пачатку дваццатага стагоддзя. І шмат чаму нам, маладым, але ўжо стомленым ад жыцця, трэба навучыцца ў гэтых людзей.

Бадзёрасці Вам, Рэгіна Карлаўна, і доўгіх год жыцця!

**Ала ШАЎЦОВА.**

## Мінск і Масква — у адзінай адукацыйнай прасторы

***Нядаўна адбыўся візіт у Мінск дэлегацыі Камітэта адукацыі Масквы.***

Візіт адбыўся на аснове дагавора аб супрацоўніцтве і абмене вопытам у вырашэнні праблем адукацыі, які быў падпісаны паміж начальнікам упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама М.І.Ціцянковым і старшынёй Камітэта адукацыі Масквы Л.П.Кезінай. Мэтай візіту было азнаямленне з вопытам работы сістэмы адукацыі беларускай сталіцы і вызначэнне перспектыў далейшага супрацоўніцтва.

Члены дэлегацыі сустрэліся з міністрам адукацыі Рэспублікі Беларусь В.І.Стражавым, пабывалі ва ўсіх раёнах горада, дзе азнаёміліся з арганізацыяй работы ва ўсіх тыпах адукацыйных устаноў Мінска, сустрэліся з кіраўнікамі адміністрацый усіх раёнаў беларускай сталіцы.

Быў праведзены "круглы стол" з работнікамі гарадскога ўпраўлення адукацыі.

Масквічы асабліва адзначылі высокі ўзровень работы пазашкольных устаноў Мінска, добрую арганізацыю мастацка-эстэтычнага выхавання і ўсяго выхаваўчага працэсу ўвогуле, што, па словах намесніка старшыні Камітэта адукацыі Масквы Л.Я.Курняшовай, з'яўляецца моцным бокам сістэмы адукацыі беларускай сталіцы. Яна адзначыла таксама выразную накіраванасць педагагічных калектываў мінскіх школ на развіццё здольнасцей дзяцей, на работу з адоранымі школьнікамі. Высокую ацэнку атрымала і арганізацыя дзіцячага харчавання. "Мы зацікаўлены ў наладжванні кантактаў паміж адукацыйнымі ўстановамі па профілях з мэтай абмену вопытам, аўтарскімі праграмамі, новымі адукацыйнымі тэхналогіямі, і ўвогуле ў фарміраванні адзінай адукацыйнай прасторы", — сказала Л.Я.Курняшова.

Плануецца наладзіць прамыя кантакты паміж вучнямі і настаўнікамі абедзвюх сталіц. Як сказала намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама Т.А.Сезень, ужо ў чэрвені ў Маскву выедзе група мінскіх школьнікаў, а наша сталіца, у сваю чаргу, прыме масквічоў.

**Святлана СУБОЦІНА.**

## Сталічная панарама

На першым Рэспубліканскім конкурсе лепшага педагагічнага вопыту ў галіне навучання правам чалавека першынство было прысуджана сталіцы. Першае месца заняў калектыў гімназіі № 1 Мінска, другое — настаўнік школы № 56 Мінска В.Балдзуеў і дырэктар гэтай жа школы А.Вішнеўскі (за праграму факультатыўнага курса "Грамадзянская адукацыя" і аднайменныя кнігу для вучняў і дапаможнік для настаўнікаў); трэцяе месца прысуджана калектыву Мінскага ВПВ электронікі. Журы адзначыла таксама матэрыялы з вопыту работы гімназій №№ 3, 12, 61, 130 і інш.

* * *

Пры цэнтры пазашкольнай работы Савецкага раёна Мінска створана і дзейнічае сацыяльна-псіхалагічная служба па папярэджанні ўсіх форм насілля над дзецьмі "Дзеці не для насілля" (Залатая Горка, 10, кв. 33, тэл. 239-74-69). Сюды могуць звярнуцца за дапамогай як бацькі, дзеці якіх пацярпелі ад розных форм насілля, так і тыя, хто хоча навучыцца абараняць сваё дзіця, а таксама праблемныя сем'і.

* * *

У гэтым годзе сталіца ўпершыню прысвоіла дзевяці сваім жыхарам званне "Мінчанін года". Сярод іншых гэтым званнем ганараваны і педагогі — Ірына Дарохіна, дырэктар дзіцячай харэаграфічнай школы Маскоўскага раёна, і яе муж і калега Станіслаў Дарохін.

* * *

З 2000 года ў Першамайскім раёне сталіцы пачалася рэалізацыя сістэмна-ролевага праекта "Ад сацыяльнай актыўнасці — да грамадзянскай сталасці". У ім удзельнічаюць дзіцяча-юнацкія грамадскія аб'яднанні школьнікаў раёна, актывісты асацыяцыі "Вясёлка", педагогі, бацькі. Работа вядзецца ў накірунках "Я і сям'я", "Я і калектыў", "Я і грамадства", "Я і сфера", "Я і свет".

* * *

Клуб ЗІПаПа (завочны інстытут пазітыўных паводзін), які быў створаны ў Мінскім Палацы дзяцей і моладзі ў 1997 годзе, разлічаны перш за ўсё на падлеткаў і моладзь 18-22 гадоў. Перад маладымі людзьмі гэтага ўзросту кожны дзень паўстаюць дзесяткі пытанняў і праблем, якія патрабуюць свайго вырашэння. У ЗІПаПа моладзь мае магчымасць абмеркаваць сур'ёзныя жыццёвыя сітуацыі, сумесна знайсці пазітыўнае выйсце з іх. У аснове дзейнасці клуба — праграма ЗІПаПа. Дарэчы, у 1998 годзе яна была прынята Еўрапарламентам у якасці праграмы навучальных семінараў у краінах паўднёва-усходняй Еўропы і цяпер ужо дзейнічае ў розных краінах. У аснову яе пакладзены сінтэз дасягненняў сучаснай педагогікі, псіхалогіі, пазітыўнай псіхатэрапіі, псіхадрамы. Унікальнасць клуба ЗІПаПа ў тым, што на яго занятках і пры правядзенні ток-шоу магчымы абмен жыццёвым вопытам паміж людзьмі розных узроставых і сацыяльных груп. Кожны ўдзельнік шоу не толькі знаходзіць рашэнне праблемы, не толькі мае магчымасць для ўзаемін з аднадумцамі і равеснікамі, але і сябе спрабуе ў ролі лідэра, вучыцца выступаць са сцэны, прымае ўдзел у тэлездымках, вучыцца самастойнасці. Наперадзе — стварэнне гарадской асацыяцыі клубаў ЗІПаПа.

**Святлана СУБОЦІНА.**

